

ПАВЕЛ ЛЕВАНОВІЧ

# ДРУЖБА

ДВБ 1938

# ДРУЖБА

Кляновае лісце асыпалася з дрэў. Белыя пасмы павуціны павольна развяваліся ў паветры і чапляліся за цыбатае іржышча. Да зялёных фарбаў лета прымяшаўся новы тон пад колер золата. Толькі адна атава на лузе выцягнулася тонкім пяром і весела зелянела.

Надыходзіла восень.

У небе плавалі грамады воблакаў, засланяючы сонца. У такі цёплы, крыху хмурны дзень Тарасік любіў пускаць доўгага папяровага змея і сачыць за яго ўзлётам. Але сёння не да таго, каб займацца такімі справамі. Хлопчык вышаў за ваколіцу і паклікаў свайго сабаку.

— Фюў-фюў-фю-юў,—моцна свістаў Тарасік.

З поля ў вёску вяла дарога. Па ёй, падымаючы пыл, ішлі два чырвонаармейцы. Тарасік убачыў незнаёмых, пачаў уважліва прыглядацца. Асабліва зацікавіла яго тое, што наперадзе іх бег сабака. Тарасік убачыў, як сабака бяжыць трушком, нюхаючы дарогу. Параўнаўшыся з Тарасікам, чырвонаармейцы спыніліся.

— Ну, здароў, герой,—сказаў адзін з іх.

— Які я табе герой,—бойка загаварыў хлопчык,—вось ты дык сапраўдны герой: гэтакага сабаку на повадзе вядзеш, ды і стрэльбу маеш. А я што...

— Ого, чаго ты захацеў...—Хлопцы засмяяліся з такога адказу і пераглянуліся паміж сабой. А шырокаплечы, той, што трымаў сабаку на павадку, спытаў у Тарасіка:

— Можа ты вады нам вынесеш, вельмі-ж мы піць захацелі. Не лянуешся? Пойдзем, мы цябе пачакаем ля хаты.

— Во сказаў, лянуюся... Ды я вам гатоў дастаць вады нават з-пад зямлі. Пойдзем, чаго чакаць.

Яны пайшлі да хаты Тарасіка. Такому знаёмству хлопчык надзвычай быў здаволены, бо якраз і ў яго гадаваўся сабака, падобны да іхняга. Тарасік выведзе і пахваліцца вучонасцю свайго сабакі. Па ўсёй ваколіцы ведаюць Тарасікава сабаку. Малыя палохаюцца вострага сабачага зуба, старыя абыходзяць сабаку.

— Ну вось і дом мой. Сядайце тут на лавачцы, а я зараз,—звонка кінуў хлопчык і пабег у сенцы.



Хлопцы селі каля хаты, а сабака выцягнуўся на траве, паклаўшы галаву на лапы. Расчырванелы язык высоўваўся з рота і шавяліўся, нібы лісток ад ветру. А чорныя вочы з шкляным бляскам глядзелі кудысьці перад сабой. Відаць сабака аб нечым думаў, бо такі выгляд азначае крайнюю заклапочанасць.

— Не сумуй, знойдзем,—звярнуўся шырокаплечы да сабакі.

— А я ўжо тут, мяне і шукаць не трэба,—пачуўся голас ззаду. Тарасік трымаў у руках медную конаўку з крынічнай сцюдзёнай вадой. Вада лілася праз край і буйнымі празрыстымі кроплямі падала на зямлю. Хлопцы выцерлі насовачкай губы і пачалі па чарзе піць. Прыемная свежасць пакацілася па горле, і ад таго, як булькала вада ў роце, Тарасіку таксама захацелася піць.

— Добрая вада, малы.

— Крынічная, таму і добрая.

І не ўправіліся выпіць прынесеную ваду, як з двара выбег Тарасікаў сабака. У яго ўзнялася дыбам поўсць, выгнулася спіна, і такі сярдзіты выгляд прымусіў настаражыцца чырвонаармейцаў.

— Дружок, ціха, не кусай,—сказаў Тарасік.

Сабакі абнюхаліся і разышліся.

Тады Тарасік павярнуўся да чырвонаармейцаў і важным голасам сказаў:

— Э, мой сабака разумны. Ён ведае каго кусаць. Яшчэ шчанюком, маленькім такім, як пачаў гадаваць, дык ён ад мяне нікуды не адыходзіць і слухае мяне. Дружок, ідзі сюды...

Сабака падскочыў, падняў пярэднія лапы і лізнуў твар маленькаму таварышу. Ён разумеў голас Тарасіка і адразу ішоў на яго, дзе-б ні быў Тарасік. Гэта і падабалася хлопчыку.

— Зірніце сюды, я даю яму шапку, і так ён пойдзе аж праз усю вуліцу,—выхваляўся Тарасік.

— Добры сабака, што і казаць. А ты вось нам прадай яго,—перадаючы конаўку, сказаў шырокаплечы.

— Ну не. Каб ты яшчэ так папрасіў, можа тады я табе і даў-бы. А прадаваць не буду.

— Ды мы пасмяяліся,—адказаў другі чырвонаармеец, і яны хуценька павярнулі на сцяжынку, па якой павёў іх

сабака. Тарасік доўга глядзеў ім услед і, калі яны былі далёка ў полі, успомніў, што забыўся запытаць, куды яны ідуць са сваім сабакам. „Такі сабака і Дружок мой, я мог-бы з імі пайсці“—думаў Тарасік.

І тут хлопчык успомніў. Непадалёку ад вёскі Малыя Баркі тры дні ідзе бой. Грымяць гарматныя стрэлы, бегаюць па іржышчы матацыклы, ходзяць лесам танкі, ламаючы векавыя дубы. Па ўсім раёне размясціліся войскі. Ідуць манеўры.

Рашыў Тарасік пайсці паглядзець на танкі, якія пераходзяць раку. Раней хацеў паклікаць сяброў, а потым перадумаў і пайшоў адзін. Ішоў сцяжынкай нацянькі да рэчкі. Вецярок лагодны так і шаволіць валасы на галаве, і белая кашуля шчыльней аблягла цела. Удаўся Тарасік у бацьку: ростам не па гадах, адвагі і дужасці на чатырох хопіць. Такая ўжо іх парода.

— Дружок, не забягай наперад, чуеш, га?

Сабака і слухаць не хоча, ён першым ускочыў на чыгуначны насып. Роўныя рэйкі бягуць удалечыню бліщчастымі істужкамі. Яны перасякаюць калгаснае поле і знікаюць за паваротам. Ідзе Тарасік па шпалах, азіраецца на станцыю: далёка, далёка віднеецца чырвонай кропкай закрыты семафор.

— Ідзі смела, чуеш, га? Дружок...

Сабака спыніўся, замахаў хвастом і, выцягнуўшы лапы, лёг на шпалы.

— Ой, ты, ласунок мой, ну, хадзем, хадзем...

Тарасік стаў на рэйку, расставіў рукі і шпарка пайшоў. Прайшоў некалькі крокаў, ногі сарваліся і ён ледзь не паваліўся на шпалы. Стальная рэйка, па якой бег Тарасік, была развінчана і ссунута ўбок.

— Дружок, стой. Хадзі сюды, хутчэй, ну?

Усхваляваны хлопчык прыпаў да зямлі і пачаў разглядаць шпалы. Невядома хто вырваў кастылі і развінціў рэйку.

— Што рабіць?—запытаў Тарасік у Дружка.

Сабака забіў хвастом і панюхаў развінчаную рэйку. Ён адчуваў хваляванне свайго таварыша.

Тарасік узняўся са шпал і ў раздум'і агледзеўся навокал. Пройдзе поезд, і тут астануцца ад яго адны шчэпкі. У хвіліну раздум'я ў яго з'явілася надзея на ратунак, ён рашыў паклікаць дарожнага раманцёра Ігната. Жыў Ігнат у ляску, непадалёку ад чыгункі, і Тарасіку бліжэй будзе да яго, чым да станцыі. Хлопчык саскочыў з насыпа на скошаны луг і паімчаўся да Ігната.

На лузе стаялі прысадзістыя копы зялёнага сена. Ад іх веяла завяўшымі пахучымі травамі. Дружок апярэдзіў Тарасіка, хоць і бег хлопец з усяе сілы. Нечакана сабака прыпыніўся ля капы і спрытна пачаў разрываць сена. Тонкая трава як пух ляцела з-пад яго лап. А парыў вецярка прынёс Тарасіку востры казытлівы пах медуніцы.

Тое, што сабака так злосна разрывае капу, зацікавіла хлопчыка. Ён прыбег да капы, і ў гэты-ж самы момант сабака выцягнуў клунак і пачаў яго разрываць зубамі. З клятчатай хусткі выпаў акраец аржанога хлеба, кавалак ружовага сала і невялікі наган.

Тарасік падняў наган і крыху спалохаўся.

„Хто-ж яго паклаў сюды? Ну, няхай хлеб, сала,—то мабыць касцы забыліся ў капе, а чаму наган сюды патрапіў?—разважаў хлопчык.—Трэба аднесці чырвонаармейцам,—а поезд?“

І Тарасік рашыў ісці да Ігната, а наган, каб хто не ўбачыў у руках, паклаў у кішэню. Ля капы сабака смачна еў сала і весела пазіраў на свайго таварыша.

Наган быў з кулямі і Тарасік, адбегшы некалькі крокаў, пачаў баяцца, каб ён не стрэліў у кішэні. Часам пад ногі патрапіць якая-небудзь ламачына,—паваліцца Тарасік, і ўсё. Памрэ на месцы і ведаць ніхто не будзе, дый і поезда не выратуе. Тады Тарасік рашыў схаваць наган у бліжэйшай капе. Так спакайней будзе, і ніхто не здагадаецца...

О, Тарасік хітрэц-мудрэц!

Ён прымеціў лазовы куст з сухой асінкай і, абапёршыся на пахучае сена, засунуў руку, каб зрабіць у капе патрэбнае гняздо для нагана. Раптам яго маленькая рука кранулася цёплага чалавечага твара. Тарасік адскочыў ад капы і насцярожыўся. Капа пачала рухацца, падымацца ўгару і з яе, раскідваючы сена, вылез чалавек. Ён быў у паношаным сялянскім пінжаку, падперазаным паверх вяровачкай. Твар малады, прадаўгаваты з быстрымі шэрымі вачыма.

— Ты што тут робіш, хлопчык?

Такога пытання Тарасік не чакаў, але ўсё-ж яно не прымусіла доўга думаць. Хлопчык адразу пайшоў на хітрыкі і спакойным цвёрдым голасам адказаў.

— Копы гляджу, ці сухое сена. Заўтра звозім іх на гумно.

— А, вось як,—працягнуў незнаёмы.—Ну, а я схаваўся ад дажджу, дый і заснуў тут у капе. Ну, пойдзем-жа.

Тарасік успомніў пра развінчаную рэйку і хацеў ужо бегчы да Ігната, як незнаёмы ласкава запытаў.

— Ды куды-ж ты, хлопчык? Пойдзем разам.

— О не, мне трэба хутчэй. Там на лініі рэйка развінчана. Дык я бягу да раманцёра Ігната.

— Пакажы дзе?—здзіўлена запытаў незнаёмы і падышоў да Тарасіка. Хлопчык выняў руку з кішэні і паказаў у бок дарогі. Незнаёмы прыгнуўся, утаропіў вочы ў хлопчыка і, хапіўшы рукой за горла, паваліў яго на траву.

— Вось я табе, блазнюк, пакажу.

— Дзядзечка, пусці мяне, я-ж нічога вам не зрабіў,— прыдушаным голасам прапішчэў Тарасік.

— Ляжы і не рухайся,—седзячы над хлопцам, працадзіў незнаёмы. Потым ён распе段разаў вяроўку і, скруціўшы рукі, моцна прывязаў іх да ног. І калі хлопчык адчуў наган у сваёй кішэні, яшчэ больш закіпела лютая злосць на незнаёмага і падступіла пад горла.

— Поезд, зараз поезд будзе, пусці,—вырываючыся з рук незнаёмага, голасна закрычаў Тарасік. Рэха пакацілася ў кучаравых кустах і знікла на лузе.

— Ра-туй-це!—моцна закрычаў хлопчык, і зараз-жа ўдар па твары перарваў крык. Незнаёмы выняў нейкую анучку і хацеў заткнуць Тарасіку рот, каб ён не крычаў.

Невядома чым-бы ўсё закончылася, і наўрад ці патрапіў-бы хто на след Тарасіка. Але ратунак прышоў нечакана. Пасля таго, як рассеяліся зялёныя іскаркі з вачэй і ў галаве крыху праяснела, хлопчык раскрыў павекі і нават не паверыў сабе. Яго Дружок вісеў на спіне незнаёмага і грыз яму шыю. Чалавек круціўся, біў сабаку па галаве кулаком і, нарэшце прылаўчыўшыся, выняў з-за пазухі складны нож і пачаў абараняцца. Дружок уступіў з чалавекам у смяротную бойку. Тарасік, заўважыўшы крывавыя цурочкі на шчацэ чалавека, пачаў узрадавана крычаць:

— Рві яго, кусі, кусі, Дружок...

Сабака, падбадзёраны голасам свайго таварыша, насеў на чалавека. Перамога была-б за Тарасікам, ды бяда,—абедзве рукі звязаны вяроўкай. Вось і рабі тут што хочаш.

— Эх, сіла, дзе тая сіла?—шэпча хлопчык і спрабуе развязацца. Але вяроўка да болю рэжа скуру, а пякучая ссадзіна гарыць агнём.

А чалавек паваліўся на зямлю і, адбіваючыся, пырнуў нажом пад лапатку. Сабака не адчуў болю, ён уплёўся ў незнаёмага, хапіў зубамі правую руку так, што пружынны нож упаў на траву.

— Ага, так яго, так.

Кроў з-пад лапаткі пырснула густымі кроплямі, а шэрая поўсць з пасівелымі краямі пачырванела. Чалавек з перакошаным тварам пырскаў слінай і біў кулакамі сабаку. Дружок не пакідаў яго грызці. Як толькі прабаваў ён падняцца, Дружок зараз-жа ўплятаўся ў ікры ног, і ярым зубам спускаў з іх кроў. Хлопчык кульнуўся да ножыка, пераваліўся на руку і, выцягнуўшы галаву, дастаў зубамі яго.

— Не здавайся, Дружок, я зараз,—сказаў Тарасік, развязваючы вяроўку. Нож быў востры, нібы тая брытва, і хлопчык хутка перарэзаў вяроўку.

— Эх, заморак няшчасны, мы з табой паваюем,—Тарасік адскочыў і выняў наган.—А ну падхадзі, хто богу верыць, усіх укакошу,—размахваючы над галавой наганам, гаварыў хлопчык.

Дружок апусціўся на зямлю і, ашчэрыўшы зубы, упіўся імі ў нагу, абутую ў растрапаны ліпавы лапаць. І калі чалавек прыпадняўся і ўдарыў нагой сабаку, Дружок паваліўся абяссілены на траву. У яго зубах тырчэў крывавыласкут ад штаноў.

— Дурань ты, хлопчык, гэта-ж я пасмяяўся з цябе. А ты і крычаць пачаў,—звярнуўся незнаёмы да хлопчыка.

— Ды я таксама смехам трымаю наган,—злосна адказаў Тарасік.—Ідзі да чыгункі, ну жыва,—камандаваў хлопчык,—жыва, кажу табе, чуеш?

— Ды я твайго-ж бацьку ведаю, добры ён чалавек,—сказаў незнаёмы і паспрабаваў пабегчы, ды страшэнны боль на назе спыніў яго.

— Ступай кажу табе, чуеш?—загадаў хлопчык незнаёмаму.

Адлегласць паміж Тарасікам і незнаёмым каля дзесяці крокаў, і няхай той падумае ўцячы, тут і смерць яму будзе. Тарасік умее страляць, ён у школе лепшы варашылаўскі стралок. Незнаёмы, кульгаючы, пайшоў у бок насыпа.

— Ну, ты не аглядвайся,—крыкнуў ён незнаёмаму,—усёроўна не ўцячы табе.

— Ды мне няма чаго ўцякаць...—адказаў той.

Па густой шаўкавістай атаве ішоў нязграбны чалавек, а за ім следам, выставіўшы наган, хлопчык год трынаццаці—чатырнаццаці. Параўнаўшыся з капой, адкуль сабака выцягнуў клунак з хлебам, незнаёмы прыпыніўся.

— Ну чаго стаў, ідзі...

— Не магу, нага баліць.

— Ну, сядай. Уцякаць усёроўна няма куды.

Ад капы насып зусім блізка. Тэлеграфныя слупы са струнамі правадоў працяжна і глуха гудзелі, і вецер біўся крыламі аб іх.

— Сі-сі-с-сі-у-гу-у...

І здалося Тарасіку, нібыта свішчыць поезд. Яго гучны медны голас разносіць вецер, і далёкае рэха заблыталася ў правадах.

„Вось і не выратуеш, поезд пройдзе па рэйках і пакоціцца пад адкос“,—думае хлопчык. Сэрца пачынае ўзмоцнена біцца, а нервы дрыжаць ад лютай злосці. Тарасік трывожна паглядае на рэйкі, што бягуць за паварот.

— Чым-жа папярэдзіць поезд?—шэптам гаворыць Тарасік. Вось прыходзіць думка.

Калі за паваротам пакажацца галава поезда, Тарасік выскачыць і будзе страляць угору. Стрэл глухім рэхам да-

ляціць да будкі машыніста, і поезд спыніцца. А Тарасік потым сам раскажа пра ўсё.

Незнаёмы паспрабаваў падняцца.

— Стой, страляць буду,—бач ты, задумаў што,—незнаёмы ўзяў разарваную клятчатую хустку і пачаў перавязваць руку. З-за куста паказаўся Дружок. Яго правая падбітая нага валаклася па траве. Дружок падышоў і паваліўся ля ног Тарасіка.

— Дружочак, баліць, ах ты мой лізунчык...

Хлопчык клапатліва прылашчыў сабаку, паклаў яго на левы бок. Засмучаныя вочы Дружка глядзелі на Тарасіка прывязлівым ласкаючым позіркам. Раптам сабака забурчэў і прыпадняў галаву. З-за куста шпарка ішлі два чырвонаармейцы. Іх паджары сабака ірваўся ўперад, і, учуўшы пах чалавека, імкліва кінуўся да капы. Той шырокаплечы чырвонаармеец, задыхаючыся, бег за сабакам.

— Здавайся,—гукнуў ён, стрымліваючы сабаку.

— Ды ён ужо здаўся. Мы яго лоўка пакамячылі,—казаў нахаду Тарасік.—Ну, уставай, гад,—пагражаючы кулаком, у якім быў чырвоны ласкут, камандаваў хлопчык.

Касалапы незнаёмы прыпадняўся і коса зірнуў на Тарасіка.

— Ну, вось мы і спаткаліся. О, у цябе і наган, ну хіба пойдзем зноў піць воду ў вёску,—смеючыся, гаварыў другі чырвонаармеец.

— Вазьміце наган, гэта яго інструмент.

За паваротам паказаўся поезд. Шызы хвост дыму вобла-кам слаўся над лесам. Тады хлопчык кінуўся да насыпа, мігам ускочыў на шпалы. А поезд, здаецца, зараз наскочыць, раздавіць яго і, сышоўшы з рэек, паваліцца пад адкос. Тарасік высока падняў у руцэ чырвоны ласкут і пачаў махаць ім у паветры.

— Стой, стой!..—крычаў ён.

Чуецца металічны лязгат, дрыжаць рэйкі, поезд ляціць няспынна. Чырвоны ласкут кашулі развяваецца і ад узмахаў рукі палошчыцца пад ветрам. Яшчэ адзін узмах рукі—і поезд наскочыў-бы на Тарасіка, але зоркі машыніст заўважыў хлопчыка з ласкутом. Ён з сілай націснуў на тармазы і даў задні ход. Поезд, рассыпаючы металічны скрэжат, застукаў буферамі і, цяжка дыхаючы, спыніўся. Белы пар клубамі пакаціўся па шпалах. Тарасік ірвануўся і пабег да машыніста.

— Рэйка развінчана, вось глядзіце,—захлёбваючыся ад хвалявання гаварыў хлопчык.

— Брава, сынок, брава... Ай-да, хлапчына! Ну, хадзі, я цябе пацалую. У мяне таксама ёсць такі сын,—сказаў вусаты машыніст.

Праз некалькі хвілін, завінцілі рэйкі, і, павольна грукаючы коламі, адзін за адным адыходзілі вагоны. З акон несліся вясёлыя песні чырвонаармейцаў, і галасісты гармонік прыгожа іграў „Будзённаўскую“. Тарасік праводзіў вачыма поезд, свіснуў і пайшоў да свайго Дружка. Агледзеў падраную кашулю і пасароміўся самога сябе. У такім выглядзе Тарасік быў надзвычай смешны.

— Эх, і дзень-жа ў мяне сёння! Ніколі не забуду,—і, узяўшы сабаку за пярэднія лапы, пайшоў па сцяжынцы ў вёску.

* * *

Пасля, дні праз тры, у вёску Малыя Баркі да Тарасіка прыехалі са штаба манеўраў і прывезлі розныя падарункі. А вясёлы шырокаплечы чырвонаармеец расказаў Тарасікаваму бацьку пра чалавека на лузе. Аказалася, што чалавек, які ляжаў у капе, быў шпіён. Ён-та і развінціў рэйку, а ў начы

перад тым днём падкінуў бікфордаў шнур з дынамітам, каб узарваць пакгауз. Часавы адчуў пах пораху недалёка ад свайго паста, зараз-жа разарваў шнур і папярэдзіў узрыў.

— Вось мы і пайшлі па слядах са сваім сабакам. А ваш хлапчына нам надзвычай дапамог. Вельмі-ж ён смелы ў вас.

— У бацьку ўдаўся,—уставіла вясёлая маці.

— А сабака паправіўся?—пацікавіўся шырокаплечы.

— Нічога, хутка паправіцца,—адказаў Тарасік.



## УДОДАВА ГНЯЗДО

Кірылка надзвычай цікавіўся птушкамі. Ён сабраў іх цэлую калекцыю, зрабіў некалькі чучалаў і вельмі гэтым ганарыўся.

Неяк раз Кірылка асачыў у лесе гнязло ўдодаў. Вось і надумаўся хлопчык злавіць гэтую птушку. Удод птушка прыгожая, з доўгім, нібы грэбень, чубам. Яна любіць крычаць у лесе, і крык яе падобны на свіст ветру ў пустой бутэльцы.

— Гу-гу... гу-гу... гу-гу.

Выбраў Кірылка аднойчы ціхі адвячорак і пайшоў з сваім таварышом Грышам лавіць удода.

Хлопцы ішлі моўчкі, быццам пасправаліся між сабой. Яны раз-по-разу паглядалі на чорную сцяну лесу, які цягнуўся далёка, аж па той бок граніцы. З жыта фуркнула перапёлка і засвістала на ўсё поле:

— Фюць палоць... Фюць палоць.

Грышка запытаў паціху:

— Ты, Кірылка, бачыў перапёлку?

Кірылка адказаў:

— Чую заўсёды як крычыць, а бачыць не давялося.

— Эх ты,—глянуў звысака на Кірылку яго таварыш.— Я дык усіх птушак бачыў. Нават афрыканскага „сакратара“.

Кірылка кінуў быстры позірак на таварыша і з цікавасцю запытаў:

— Афрыканскі „сакратар“—хто ён такі?.. Дзе ты бачыў яго?..

Паміж хлопцамі распачалася гутарка. Грышка зацікавіў Кірылку сваім „сакратаром“. Ён помніў гэтую птушку такой высокай, як наш бусел, з доўгай шыяй, а на галаве невялікі жмуток пер‘я.

— А дзе-ж ты, Грыша, бачыў яго?—не пераставаў цікавіцца Кірылка.

Грышка засмяяўся.

— Дзе? Я чытаў у кнізе...

Мабыць, гутарка працягвалася-б і далей, каб не Кірылка. Ён азірнуўся і на вуха шапнуў Грышку:

— Зараз голасу не падавай. Дух затаі. Мы ідзем на гняздо. Удод хітрая птушка.

Таварышы ўваходзілі ў лес. Цёплая вільготная трава казытала падэшвы ног, адчаго рабілася прыемна і весела. Рыжыя камары звінелі каля самага вуха. Недзе далёка крычалі вараняты, спрабуючы свае галасы. І ў траве гойсалі і цвыркалі konікі. Па абодвух баках сцежкі стаялі дубы і асіны. З аднаго дуба зляцела нейкая птушка і крыху напалохала хлапцоў. Грышка пачынаў непакоіцца.

— Яшчэ далёка?—пытаўся ён.

— Маўчы кажу.

Раптам Кірылка прыпыніўся.

— Чакай, а я пайду.

Наперадзе—чорны высокі дубовы пень. У гэтым пні знаходзілася гняздо. Кірылка добра прыкмеціў, з якога боку захо-

дзіць, каб не палохаць птушку. Ён паступова перастаўляў ногі, выбіраючы мяккую траву. Ішоў Кірылка не спяшаючыся, быццам пераходзіў кладку з цвікамі. Адзін крок, другі. У Грышкі ўжо цярплівасці няма. Ён спрабуе лічыць крокі Кірылкі і збіваецца.

— Сюды... сюды,—пачуў ён голас таварыша і пайшоў да яго. Кірылка стаяў ля пня і трымаў абодвума рукамі шапку. Пад шапкай знаходзілася дупло, у якім і было тое гняздо. Ад пня несла непрыемным пахам, уласцівым для гэтай маленькай птушкі.

— Садзі сюды руку, ды хутчэй,—сказаў Кірылка.

Грышка ўсадзіў руку і боязна павярнуў галаву да таварыша. Яны глядзелі адзін на аднаго. У Грышкі падняліся павекі, а вочы заіскрыліся агеньчыкам.

— Ну, вымай, чаго глядзіш,—злаваў Кірылка.

Як здзівіліся хлопцы, калі замест маленькай птушкі з доўгім хвастом, Грышка дастаў наган.



Хлопцы спалохаліся.

— Бяжым дадому,—шапнуў Грышка.

Але што рабіць з наганам? Можа яго пакінуць тут, у гняздзе? Не,—парашылі яны нарэшце,—лепш занесці яго калгаснаму вартаўніку Анупрэю. Яму ён спатрэбіцца.

Забыўшыся пра ўдода, хлопцы шпарка пабеглі дадому... Каля вёскі іх сустрэў старшыня калгаса

дзядзька Кірэй. Ён быў добры чалавек і заўсёды любіў жартаваць з хлопцамі.

Дзядзька Кірэй надта здзівіўся, калі ўбачыў наган у Грышкі.

— Каго гэта ты страляць будзеш?—спыніў ён хлопцаў.

Кірылка ахвотна расказаў старшыні пра гняздо ўдодаў і як яны знайшлі там гэты наган.

— А хто яго схаваў, мы не ведаем,—закончыў Кірылка.

Дзядзька Кірэй пагладзіў па галаве Кірылку і засмяяўся. Потым узяў наган у Грышкі, крутнуў барабан, асцярожна агледзеў яго і падміргнуў хлопцам:

— А я ведаю, хто схаваў. Толькі нікому ні слова пра наган.—Потым дзядзька Кірэй доўга і дакладна распытваў, дзе і ў якім месцы знаходзіцца ўдодава гняздо.



Хлопцы аб усім расказалі і пайшлі дамоў.

Назаўтра Кірылка разбудзіў Грышку.

— Уставай, Грышка, пойдзем гуляць.

Грышка спрасонку цёр павекі і пытаўся:

— Можа зноў лавіць удодаў?

Хлопцы вышлі на вуліцу. Па дарозе з боку леса ішоў Кірэй і вартаўнік Анупрэй. Наперадзе іх, схіліўшы галаву, крочыў незнаёмы чалавек, апрануты ў кароткі пінжак. Хлопцаў зацікавіў незнаёмы. Старшыня калгаса параўнаўся з імі і засмяяўся.

— Ну, хлопцы, дык вы і не злавілі ўдода? А мы вось, злавілі. Бачылі яго?

Незнаёмы чалавек кашлянуў і скоса глянуў на Грышку. Хлопчык убачыў звярыны позірк вачэй і крыху падаўся назад.

Праз дзень на месцы ўдодава гнязда дзядзька Кірэй знайшоў яшчэ нейкія паперы і невялікі бліскучы партсігар. Пасля выявілася, што незнаёмы аказаўся шпіёнам з-за мяжы. Бліскучы партсігар, які нічым не здзівіў тады Кірэя, быў спецыяльным фотаапаратам.

Цікавая птушка шэры чубаты ўдод!

## ВЫПАДАК У ДАРОЗЕ

Аднойчы ўвечары бацька збіраўся адвозіць пошту на станцыю. Упакаваў пісьмы ў брэзентавы мяшок і чакаў шофера. Неўзабаве затрубіў ражок, і да ганка пошты пад'ехаў аўтамабіль.

Я пачаў прасіць бацьку ўзяць мяне з сабою, але ён і слухаць не хацеў. Тады я непрыкметна залез у аўтамабіль. Бацька прышоў, адчыніў дзверцы і здзівіўся:

— А ты ўжо тут?.. Ну, што-ж, паедзем, калі так.

Машына рванула з месца, і мы паехалі. Шасейная дарога перасякала вялікі лес, а за лесам рэчку. Гэта дарога мне знаёмая: я часта прыходзіў у грыбы сюды. Але далёка ад дарогі, углыб лесу, я баяўся заходзіць.

Мы ехалі лесам. Святло ад фараў прарэзвала цемру і далёка асвятляла дарогу. Абапал шасе ноч здавалася чарнейшай. Я выставіў руку і адчуў густы цёплы вецер. Лес спаў. Ніхто не парушаў яго цішыні. Машына спакойна імчалася па новай, пасыпанай гравіем, дарозе. Раптам бацька крануў мяне за руку:

— Паўлік, глядзі, вунь заяц...

Я нахінуўся наперад і цераз плячо шофера ўбачыў, як шэры заяц перабягаў дарогу. Электрычнае святло асляпіла яму вочы, і таму ён выправіўся ўдоўж па шасе. Машына даганяла яго. Мне стала шкада зайчыка.

— Татка, мы-ж яго задушым...

— Не задушым, машына ідзе памалу,—адказаў бацька, і я супакоіўся.

Затрубіў ражок: шофер хацеў сагнаць зайца з дарогі. Заяц памкнуўся збочыць, але ў лесе стаяла страшэнная цемра; і яму, мабыць здалося, што гэта сцены. Таму ён зноў паімчаўся белаю дарожкай.

Хутка мы ўз'ехалі на мост. Заяц быў ад нас на некалькі крокаў. Зноў затрубіў ражок. На гэты раз насустрач ехала падвода. Шофер спыніў машыну. Я захваляваўся ад цікавасці.

— Чакайце, я яго злаўлю,— крыкнуў я.



Вылезлі мы з бацькам і пабеглі за зайцам. Падвода ехала паціху, а спераду яе ішоў чалавек; ён свіснуў і таксама пабег да зайца. Заяц апынуўся паміж людзей на асветленым мосце. Доўга не думаючы, ён скокнуў уніз.

— Бяжым, ён-жа ўтопіцца.

— Выплыве,—сказаў бацька, і мы пабеглі на бераг.

У вадзе штосьці варушылася. Напэўна, каб гэта быў заяц. Ён напэўна разбіўся, падаючы з высокага моста. Мы падышлі і на-

гнуліся над вадою. Я глядзеў на чорную роўнядзь рэчкі. Зайца не было. Бацька павярнуўся, сабраўся ісці ў аўтамабіль, але пачуў мой крык:

— Вось ён, татка...

Заяц выплыў на бераг, недалёка ад мяне. Я схапіў яго за вушы, але ён ірвануўся, ударыў нагамі, і я паляцеў у ваду. Моцна сціснуўшы звярка за вушы, я не выпускаў яго з рук. Рэчка была неглыбокая каля берагу, і я лёгка выбраўся з яе.

— Злавіў усё-такі, хоць і парваў ён мне кашулю,—паказаў я з вялікай радасцю зайца. Бацька пагладзіў перапалоханага звярка і пахваліў мяне.

Мы селі ў аўтамабіль, абмінулі падводу і паехалі далей. Наперадзе віднелася ўжо станцыя, а хутка прымчаўся і поезд.



# ШЫЗЫ ГОЛУБ

I

Дождж прымусіў Валодзю схавацца пад страху. Цёплыя вадзяныя кроплі свідравалі пыл і цурочкамі цяклі пад ногі. Тады Валодзя бліжэй прытуліўся да сцяны.

Раптам залапатала крыллямі птушка над галавой. Хлопчык падняў галаву і агледзеў страху, але нікога не было. Потым штосьці запішчэла жаласліва і працяжна.



Валодзя ў разгубленасці вышаў з-пад страхі і зараз-жа ўбачыў на зямлі малое птушанё. Кароткія крыллі з сівым пушком заграбалі зямлю, а роцік раскрываўся і пішчэў:

— Ціў-ціў... Сіў-сіў...

Птушанё чакала матчынага цёплага роціка, у якім будзе ежа. Хлопчык здагадаўся і таму пашкадаваў яго.

Ён узяў птушанё на цёплую далонь, паднёс да твара і падуў грудным паветрам. Гарачыя струменьчыкі ажывілі птушанё, яно супакоілася.

— Ціпачка мой. Маленькі такі...

Пад страхой замахаў крыллямі белагаловы голуб і сеў на стары шост. Яго варанёная дзюба і шызае з чорным адлівам апярэнне спалохалі Валодзю. Хлопчык зірнуў на чорныя вочы ў чырвонай аправе і прыпадняў на руках птушанё. Голуб павёў нахахліўшай галавой, завуркаў коратка і працяжна:

— Бррукy-бр-ру-ку, бру-ку.

Птушанё пачула матчын голас, запішчэла. Валодзя падышоў бліжэй да галубкі, але яна ўмомант сарвалася і паляцела. Пад шастом захістаўся саламяны кошык. У ім тырчэла пер'е і пацёртая салома. Там і было гэтае птушанё ў мокрай саломе.

— Маці шкадуе. Яна гадавала цябе...

Дождж перастаў. Празрыстыя пузыры плавалі па лужах. Хлопчык паглядзеў на неба і пайшоў дадому. Махнаты галубок мацней ціснуўся да грудзей. Яму цёпла сядзець пад пахай, быццам пад крылом галубкі.

II

Валодзя аднясе галубка крокаў на дзесяць ад Паўліка, пасадзіць на далонь і пытае:

— Ну, пакліч, ці разумее ён твой голас?

Паўлік пачынае пішчэць, але галубок і не думае кратацца. Ён не разумее Паўліка.

Тады яны мяняюцца месцамі. Валодзя бярэ яго на рукі, частуе пшаніцай.

Голуб зрабіўся жвавым і паслухмяным. Ён навучыўся вуркаваць і заўсёды прылятаў на голас свайго гаспадара.

Аднаго разу, калі Валодзя з Паўлікам вучылі голуба лятаць, здарылася бяда.

Быў крыху хмурны дзень. Сонца пакажацца, ды зноў пойдзе ў хмары. Таварышы пусцілі голуба, а самі схаваліся. Валодзя спрабаваў ісці на хітрыкі; ці адшукае яго птушка, калі ён схаваецца за тоўстую ліпу. І вось, Паўлік пасадзіў у шапку голуба і пайшоў ад Валодзі. Потым падкінуў угару, голуб расправіў крыллі і быстра паляцеў ад Паўліка. Зрабіў круг у небе і пачаў прызямляцца. Раптам аднекуль кінуўся



каменем коршак на шызага голуба. Валодзя задрыжэў ад злосці на драпежную птушку.

— Паўлік, коршак!

Голуб маланкай прарэзаў воддаль Паўліка паветра, і блізка-блізка ад яго прасвістаў коршак.

— Ратуй, галубка, ратуй!—закрычаў Валодзя і, склаўшы пальцы, звычна свіснуў.

— Фюс-фюс-юс!..

Таварышы выскачылі на дарогу і нідзе не ўбачылі голуба. Тады Валодзя наважыўся бегчы на гароды, аж прама ў яго ног апусціўся голуб. Злы і лупавокі коршак праімчаўся міма хлопчыка.

— Волечка мой! Шызанькі галубочак,—гладзячы далоняй па галаве, гаварыў Валодзя. У птушкі калыхаліся грудзі і моцна білася сэрца. Яна напалохалася коршака—дзікай і драпежнай птушкі. Пра гэта потым доўга гаварылі хлопцы, аж пакуль не пачаліся заняткі ў школе. Голуб ужо добра навучыўся лятаць і зрабіўся, як стары. Ён прызвычаіўся да Валодзі і палюбіў яго.

III

На занятках Валодзя не гаварыў пра голуба. Нават Паўлік, які любіў усім пахваліцца, таксама трымаў нейкую тайну. Толькі нядоўга было ўсё гэта. Тайну сваю хлопцы не стрымалі. Здарылася ўсё так.

Настаўнік пачаў маляваць голуба і расказваць пра птушку. Тады Паўлік нешта ціха шапнуў на вуха Валодзю. Валодзя нябачна шмыгнуў за дзверы і, стоячы на ганку, свістам паклікаў голуба. Птушка прыляцела да Валодзі з-за гарода. Валодзя пасадзіў яе на далонь і пайшоў у клас.

— Іван Пятровіч, вам патрэбен голуб, вось ён...

Дзеці заварушыліся, паўставалі з месц і акружылі хлопчыка. Шызы голуб здзіўлена глядзеў на іх.

— А які прыгожы, ай-яй.

— Вунь і круг нейкі каля вачэй, што гэта?—пыталіся цікавыя. Кожны шкадаваў, што не мае такога голуба. Некаторыя мацалі гладкія пер'і, кіпцюры, дзюбу. Валодзя адчуваў сябе радасным і вясёлым.

— Дзе-ж ты ўзяў такую птушку?—запытаў настаўнік.

— Гэта я сам гадаваў. Мы з Паўлікам вырасцілі яе.

Вучні глядзелі на круглыя чорныя вочы голуба і на Валодзю.

А хлопчык расказваў пра тое, як ён яго гадаваў.

— Я ішоў з суседняй вёскі. Паднялася бура, дождж. Я спыніўся пад страхою. Стаю, гляджу на дождж, а мне ў ногі птушанё... Я падняў яго, абагрэў і навучыў есці зярняткі. Зараз голуб разумее мяне і ляціць на мой свіст, дзе-б я ні быў.

Валодзя замоўк. З-за плеч чуліся галасы.

— Вось каб нам такі, а які шызанькі!—гаварыў маленькі Толік.

Валодзя паглядзеў на хлопчыка, потым на настаўніка.

— Мне голуб не патрэбен. Вазьміце яго сабе,—прапанаваў ён настаўніку.

Настаўнік, закрануты такой шчырасцю хлопчыка, падзякаваў яму.

— Не, Валодзя, не вазьму. Свойскія голубы патрэбны ў нашу армію. Вось выходзіць куды-небудзь атрад, ён бярэ з сабой такога голуба. Калі атраду трэба перадаць сакрэтныя весткі ў штаб, адкуль узялі голуба, выпускаюць яго з маленькай паперкай, прывязанай да нагі, і голуб прама прылятае ў штаб... Панясем яго нашым шэфам.

— Занясем, сёння занясем,—пачуў Валодзя голас Паўліка.

Хлопчык павярнуў галаву, паглядзеў у вясёлыя вочы таварышоў, згадзіўся.

— Пойдзем, няхай ведаюць пра нашага голуба. Ён будзе часта прылятаць да нас, пакуль забудзе.

Дзеці шумным натоўпам вышлі на вуліцу. Наперадзе ішлі Валодзя з Паўлікам. У Валодзі на плячы сядзеў шызы голуб і трывожна аглядаўся навокал.

Была восень. У паветры чырыкалі вераб'і і дзесьці вуркавалі галубы.



# ШЭРАК

Яшчэ ў маленстве Панасік наламае галінак у садзе, утыркне іх у зямлю, а між імі паставіць бульбяных каровак і ціхенька прыкрыкне:

— Э-э, куды, куды, бурая,—і спрытным рухам рукі прасоўвае іх паміж галінак, уяўляючы сапраўднае стада. Тады Панасік бегаў пад сталом, і ніхто яго не трывожыў. Бацька часам паглядзіць на бульбяных жывёл, засмяецца і скажа:

— О, табе-б, брат, сапраўднае стада пасвіць... Вельмі-ж ты любіш каровак.

А як падрос крыху Панасік, сам пайшоў да дзядзькі Міхася ў падпаскі. Па лясной мураве ходзяць калгасныя каровы. У іх плоскія і шырокія ілбы з тупымі і крывымі рагамі. Толькі бык меў круты і віхрасты лоб, вострыя і прамыя рогі з саломеным адценнем... Ён быў шэры ўвесь, таму і празвалі яго Шэрак. Панасіку падабаўся бык сваёю рахманасцю і паслухмянасцю. Бывала, увечары, як гоніць Панасік кароў праз вёску, Шэрак не бегае па гародах. Ён ціха ідзе ўслед за каровамі і толькі часам падыме на рогі таго ці другога сабаку ды перакіне праз плот. Панасік тады смяецца і праз зубы крыкне на быка:—Ідзі, ідзі, Шэрак... Ідзі...

Бык паглядаў на пастушка і бокам рухаўся па вуліцы, злосна пазіраючы вакол.

Нешта раз, ходзячы са стадам па лесе, Шэрак адстаў і зблудзіўся. Дзядзька Міхась пагнаў стада дамоў, а быка не было. Тады Панасік пабег у лес шукаць Шэрака. Увайшоў у кусты, аж чуе—нейкі глухі рэў коціцца па лесе. Панасік прыпыніўся. Паглядзеў на дзядзьку Міхася, той быў далёка з каровамі. Нейкая боязнь ахапіла хлопчыка. Сінія змрокі клаліся на зямлю. Доўгімі шапкамі ценяў хісталіся дрэвы навокал.

Зрабілася страшна.

„Можа ваўкі?“

Гул пачынаў шырыцца, а затым пачуўся нейкі трэск, глухі і працяжны рэў.

Пасмялеў Панасік. Ён пачуў голас свайго любімага быка, і зараз-жа паімчаўся ў лес.



Яго твар сцёбалі тонкія галінкі арэшніка, а сухое ламачча крывавіла босыя ногі.

Выбег Панасік на паляну і здзівіўся. Крукам схіліўшы шыю, наступаў Шэрак на мышастага быка. А той пружыніў карак і лаўчыўся ўдарыць Шэрака крутымі рагамі ўбок. Быкі спрытна круціліся, сутыкаліся ілбамі і падымалі нагамі пыл.

Панасік увесь закалаціўся, бо вельмі ўжо шкадаваў Шэрака.

— Шэрак мой, Шэрачок,—паклікаў ён.

Бык злосна зароў, крута сагнуў галаву, збіраючы гармонікам складкі на шэрай шыі, і забіў капытом па зямлі. Аднекуль падаспеў пастушок з суседняга калгаса, і Панасік з ім разбараніў быкоў, потым падышоў, прылашчыў Шэрачка і ўбачыў здзёрты карак. Шматкі поўсці ляжалі на пабітай галаве.

Шэрак быў дужэйшы і спрытнейшы. Але ўсё-ж, пакуль Панасік разганяў сярдзітых жывёл, у Шэрака на шыі застыла кроў.

— Бычок мой... Шэрачок...—гаварыў Панасік і разглядаў рану. Рана была вузкая і глыбокая. Панасік у душы пашкадаваў быка і моўчкі пагнаў яго дамоў. Шэрак ішоў з упалымі бакамі, сярдзіты і злосны. І толькі праз два тыдні на месцы здзёртай скуры абрасла маладзенькая і тонкая, а неўзабаве пачала вырастаць і шэрсць. У часе хваробы Панасік браў з сабою карболку і ёд. Ён тры разы на дзень змазваў рану. Мусіць таму і звыкся Шэрак з Панасікам, каб аддзякваць яго турботы.

Бывала, лягуць каровы дзе-небудзь каля кустоў, а Панасік з Міхасём пойдуць абедаць пад кучаравы дуб,—і зараз-жа ціхім крокам ідзе за імі Шэрак.

Аднойчы каровы хадзілі па іржышчы. Неяк ухадзіліся паабапал дарогі, што вяла ў вёску, і ходзяць спакваля. Панасік глядзіць на каровак, лепш ад усіх падабаецца яму шэры бык, з доўгай і моцнай шыяй. Так і хочацца лашчыць яго. Панасік устаў з абочыны дарогі і намерыўся ісці да Шэрака. Раптам чуе голас Міхася:

— Панасік: уцякай, сабака шалёны...

Зірнуў Панасік на дарогу і бачыць—проста на яго бяжыць чорны вялікі сабака. Худыя рэбры выпіраюцца праз скуру.

Хвост валачэцца па іржышчы. Рот раскрыты, а пена камкамі так і валіцца на зямлю. Куды хавацца? Куды ўцякаць?

— А-яй-яй! Ратуйце!!—Панасік ірвануўся, сабраў усю сілу і шпарка, шпарка пабег да бярозы. Мімалётна паказалася, нібы сабака ззаду, і вось чуваць глухі тупат яго ног. Хлопчык закрычаў мацней:

— Ратуйце-це!

Крокаў трыццаць ад Панасіка бег зморany шалёны сабака. Каровы заварушыліся, павярнулі галовы да яго і дзіка зараўлі. Блізка, блізка чуваць голас Міхася:

— Панасік, хутчэй, хутчэй!

Сіла пакінула Панасіка і ён зваліўся. У гэты момант бык убачыў сабаку і мігам кінуўся на яго. У два прыжкі Шэрак дагнаў сабаку. Ударыў вострымі рагамі ўбок, падняў высока і сярдзіта кінуў вобземлю. Тады яшчэ раз прыпадняў рагамі і адкінуў далёка ад сябе. Дзядзька Міхась бачыў усё гэта. Ён прыбег да Панасіка.

— Панасік, уставай,—Міхась паклаў галаву на рукі, выняў бутэльку вады з торбы і абліў Панасіку твар. Шэрак падышоў да іх і, мусіць адчуўшы няшчасце, ласкава глядзеў на Панасіка.

— А сабака дзе?—апрытомнеўшы, спытаў хлопчык.

— Шэрак забіў яго. Вунь глядзі.

Пастухі глядзелі на распораты крывавы жывот сабакі і халодныя адкрытыя вочы. Паджарыя бакі былі акроплены крывёй.

Бык круціў галавой і працяжна мыкаў. Панасік падышоў да Шэрака, выняў кавалак хлеба, што быў на полудзень, і даў быку. Потым абняў мускулістую, моцную шыю і прыхінуў да яе галаву:

— Еш, Шэрачок, еш. Дома я табе канюшыны дам. Ты-ж разумееш усё, усё,—размаўляў Панасік з быкам.

А крыху пазней, на дарозе, следам сабакі, ехаў калгаснік з дубальтоўкай. Потны і гарачы конь кінуўся ўбок, спалохаўшыся сабакі. Міхась расказаў ездаку пра сабаку. Калгаснік слухаў і дзівіўся.



## ВУЛЕЙ

Бацька мой—пчалавод, але ніколі не пускаў мяне на пасеку. Тады я сам рашыў завесці пчол. Адною раніцой цёплага летняга дня ішоў я з луга і ў прыгаршчах нёс соты. Па дарозе сустрэў Міхасёў Кірылка, паглядзеў на соты і сказаў:

— Толі-чак, гэта-ж шмялі...

— Дык я сам ведаю... Але я хачу, каб яны жылі ў нашым садзе.

Мы крыху параіліся, і згадзіліся занесці соты на луг. На лузе скачуць конікі, а па кветках лётаюць чорныя з шэрымі крыллямі шмялі і пчолы. Над лугамі стаіць салодкі гуд, нібы там хто глуха іграе...

Адшукалі шмялінае гняздо сярод густой травы. І вось чую—каля вуха шмель лётае. Я яго не спалохаўся, прыгнуў галаву і палажыў у ямачку соты, а Кірылка ўцёк. Дагнаў яго на мяжы і кажу:

— Кірылка, пойдзем у лес вулей рабіць. Толькі ты не кажы пра шмялёў нікому.

Увечары прынеслі берасцяны кругленькі вулей.

Кірылка ціхенька выняў гняздо. Шмялі загудзелі, а большы з іх паставіў крыллі і дзынкаў імі так зычна, што ў мяне ў вушах зазвінела. Шчасце наша, было ўжо цёмна і мусіць шмялі спаць сабраліся. Дужа злосныя... Хабаток выстаўяць і звоняць махнатымі крылламі. Гэтак яны распаўзліся і гудуць. Я хуценька паклаў два кавалкі сот у вулей, і селі мы чакаць, покуль яны ўлезуць у яго. А шмялі сумысля поўзаюць ды спакваля дзынкаюць і шукаюць гнязда.

Адзін—на пушыстых ножках—паўзе папярэдзе, а за ім ланцужком і астатніх дзесяць. Панеслі мы сваіх пчол у сад. Паставілі ў пырніку бліжэй да канюшыны і пайшлі дадому.

— Кірылка, ты не трывож іх без мяне. Дні праз два яны наносяць мёду. А шмяліны мёд такі салодзенькі, салодзенькі...

Так мы разышліся дадому. А ноччу я не мог заснуць. Прад вачыма стаялі махнатыя, рыжыя і чорныя шмялі. Яны лёталі і звінелі, быццам іх патрывожыў хто. Здавалася, нібы каля кожнага дрэва стаялі вуллі. Бацька мой з зайздрасцю глядзіць на мяне, як на сапраўднага пчаляра. Нават суседзі прыходзяць паглядзець нашых шмялёў. А мы з Кірылкам аж расцем ад радасці. Сад гудзіць шмялямі, а па садзе прайсці нельга.



— Толя, Толі-чак,—пачуў я праз сон і зараз-жа ўстаў. Праз шыбу пралазіла сонца і белым касячком клалася на падлогу. Каля мяне стаяў Кірылка.

— Толі-чак, шмялёў абярнулі... Хто гэта так?

— Не можа быць... Вулей стаяў у траве. Яго ніхто не бачыў. Можа і шмялёў няма,—ледзь не плачучы, гаварыў я. Затым мы выскачылі на двор і пабеглі ў сад. Зялёныя яблыкі буйнымі вузламі сядзелі між лістоў, а грушы-бэры звісалі, як пчаліны рой на галінцы. На траве блішчэў вулей. Я беражліва паставіў яго і прысеў на зямлю. Шмялі адзін за адным вылезлі з акенца і паляцелі на кветкі. Крыху счакаўшы, Кірылка сказаў:

— Пойдзем. Яны за мёдам паляцелі.

Калі мы прышлі ў хату, бацька снедаў, а маці паглядзела на мяне здзіўлена і сказала:

— Ну, што сынок, Мірсік наш здохне. Паглядзі, які ён стаў.

У куту, воддаль дзвярэй, ляжаў сабака. Яго доўгая пыска зрабілася вялікай і смешнай. Я падышоў да яго.

— Мірсік, Мірсічак,—але сабака не рухаўся. Ён паджаў хвост і моўчкі высоўваў язык, каб аблізаць пыску.

— Ну што, памрэ,—што будзем рабіць...

— Мамка, ды гэта-ж яго шмель укусіў...

У чорнай пакудлачанай поўсці заблытаўся шмель і бясcільна сядзеў, апусціўшы крыллі.

— Ах ты, Мірсічак, ты мой вулей абярнуў... Чаго-ж ты бегаў там...

Мне стала шкода нашага сабаку. Я пачаў яго лашчыць, а Кірылка і блізка не падыходзіць.

— Цяпер сабака здохне?—запытаўся я.

Тады бацька супакоіў мяне:

— Сабакам патрэбна ядомая трава. Зуб перамарыць. Вось ён і хадзіў па садзе. А ты, сынок, ніколі не чапай шмялёў. Яны не пчолы, і жыць у вуллі не будуць. Калі ты ўжо любіш пчол, хадзем са мной на пасеку. І Кірылка таксама няхай ідзе.

— А Мірсік наш будзе жыць. Яго шмель укусіў,—болей я нічога не мог сказаць.

Добра што, бацька бярэ на пасеку. Мы будзем глядзець, як носяць пчолы на лапках ружовы воск і салодкі мёд.

А ўвечары, ідучы з пасекі, я забег у сад. Мой вулей блішчэў, нібы белы букет, і ціха стаяў у траве.

Шмялёў не было. Яны разляцеліся невядома куды. Тады я ўзяў вулей, закінуў кудысьці далёка і, звесіўшы галаву, пайшоў дамоў.



# САРОКА-БЕЛАБОКА

У Валодзі быў чорны, з пушыстай шэрсцю кот. Валодзя яго выгадаваў сам, і таму кот прывык да яго. Бывала, прыдзе са школы, а кот скокне з печы і пачне мяўкаць. Ад гэтага Валодзю рабілася прыемна і весела. А калі сядаюць за стол, кот падыйдзе да Валодзі, выгне хвост дугой і трэцца каля ног. Бацька часам крыкне на ката, пакажа яму папружку, і тады ён спалохана бяжыць пад стол, знойдзе там Валодзіны ногі і зноў пачынае лашчыцца да свайго гаспадара. Валодзя любіў і шкадаваў ката.

Але вось здарылася бяда.

Зімою хораша іскрацца беллю снягі. Яны пакрылі роўным абрусам зямлю і стрэхі.

Валодзя любіць глядзець у акно і дзівіцца на вераб'ёў. З вераб'ямі аднаго разу прыляцела сарока. Доўгі хвост колеру воранёнай сталі падабаўся хлопчыку. Села сарока на сметнік і баязліва паглядзела на акно. Чорная дзюба, доўгая і шырокая, быстра апускаецца і падымаецца.

— Мама, якая прыгожая птушка,—сказаў Валодзя.

Сарока не палохалася і скакала па двары.

Яна трасла чорным хвастом і шчабятала:

— Чок-чок-чок... Кока-ко, кок...

„Чакай-жа, калі ты смелая такая",—падумаў Валодзя, і яму захацелася злавіць сароку.

Надзеў паліто і вышаў у сенцы. Тут яму відаць увесь сметнік праз шчыліну дзвярэй, і сарока яго не бачыць.

Стаіць Валодзя і наглядае за сарокай. У яго забілася сэрца:

— Ах, якая прыгожая птушка.

Ходзіць па двары, нібы дражніць яго. У Валодзі паднялася злосць на птушку. Ён любаваўся на яе праз шчыліну дзвярэй і думаў, як злавіць яе. Сарока нібы даведалася пра планы хлопчыка, быстра скокнула і паляцела. Гэта яшчэ больш раззлавала хлопчыка. Тады ён парашыў злавіць яе. Ён прынясе сароку-белабоку ў школу і пакажа сваім сябрам. Валодзя зробіць гэта сёння, зараз-жа, няхай толькі прыляціць яна на сметнік. Валодзя пайшоў у хату, узяў доўгую нітку, прывязаў да яе кручок і адзеў на яго кавалак мяса. Сарока схопіць мяса, глыне разам з кручком і—нікуды не ўцячэ...

Нітку Валодзя кінуў на сметнік, а другі канец трымае ў руцэ.

Доўга вартаваў Валодзя птушку. Сядзіць у сенцах і глядзіць праз дзверы. Ужо абрыдзела чакаць, і ён сабраўся ісці ў хату, як раптам ірванулася нітка.

— Ага, папалася, не ўцячэш!—крыкнуў Валодзя і пабег на двор. Зірнуў навокал і здзівіўся: сарокі не было, толькі вераб'і крычалі весела на страсе. Валодзя пабег за хату і атарапеў. Чорны калматы кот уцякаў па сцежцы. Доўгая нітка цягнулася ўслед за ім.

Валодзя спалохаўся і кінуўся за катом.

— Кіска мой, коцік...

Кот праглынуў мяса з кручком і бег як шалёны. Нітка чаплялася за купінкі, кот тады куляўся праз галаву і крычаў. Дарожка вяла на гумно, ёю і бег Валодзя за катом, перапалоханы і злосны. А кот дабег да гумна і знік у ім. Нават і нітку дзесьці адарваў. Валодзя падышоў да варот, клікаў ката, але кот не адгукаўся.

Сумны прышоў Валодзя ў хату і расказаў аб усім матцы. Гаварыў і ледзь не плакаў. Маці паглядзела на яго і сказала:

— Ты, сынку, не палохайся.

— Ён цяпер не прыдзе дадому,—сердаваў Валодзя.

— У нас быў выпадак,—пачынала суцяшаць маці,—кот збег з дому на цэлы месяц, а потым прышоў.

Валодзя супакоіўся. На нейкі час ён забыў пра ката. На другі дзень, калі прышоў са школы, зноў убачыў сароку на сметніку.

— Мама, можа коцік прышоў дадому?

Маці маўчала, быццам нічога і не чуе.

— Скажы, я плакаць не буду.

— Можа на гумне мышэй ловіць,—адказала маці.

Прышоў бацька, ласкава зірнуў на Валодзю і сказаў:

— Ну, сынок, сароку не злавіў, а коцік здох. Пайшоў я раніцой у гумно сена браць, там і знайшоў яго.

Валодзя ўздыхнуў. Яму шкада было ката і сорамна перад бацькамі. Толькі чаму сорамна? Тут вінавата сарока. Валодзя зірнуў у акно на белабокую сароку і пацікавіўся.

— Татка, а як сароку злавіць?

— Сароку? Ды яе, брат, не зловіш. Няхай лётае.

Валодзя згадзіўся з бацькавым адказам і больш ніколі не лавіў сарок.

# ПРА ВАВЁРАЧКУ І КОШКУ

Аднойчы Толяў бацька прынёс з лесу маленькую вавёрачку. Толя, убачыўшы пушыстага звярка, аж заскакаў ад радасці. Ён узяў вавёрачку на рукі і пачаў асцярожна разглядаць яе.

— Паглядзіце, якая яна прыгожая... А роцік які! І вусікі, як у ката...

Не выпускаючы звярка з рук, ён наліў у сподак малака і паставіў на ўслон. Вавёрка чыхнула, абмачыўшы губы, і адскочыла ўбок. Толя зноў злавіў яе і падсунуў сподак з малаком. Але вавёрачка ўпіралася, не хацела есці.

— Не бярэ... што-ж рабіць?—задумаўся Толя.

У гэты момант прышоў Міколка. Толя расказаў таварышу пра сваю бяду. Той выслухаў і параіў:

— Ведаеш што, у нас ёсць кошка з кацянятамі. Давай занясем вавёрачку да іх.

— А калі кошка задушыць?

— Не задушыць. Мы самі будзем стаяць пры ёй.

Толя згадзіўся. Ён узяў вавёрачку, прытуліў яе да грудзей і моўчкі пайшоў за Міколкам. У хаце Міколка дастаў з-пад ложка старое рэшата з кацянятамі. Толя выняў сля-

пога рудзенькага кацянёнка і пацёр аб вавёрку. Потым па адным выняў двух другіх і гэтак сама пацёр, і тады ўжо паклаў вавёрку ў лубок. Міколка прынёс кошку. Кошка абнюхала маленькіх дзетак, замяўкала і лягла ў лубок. Да яе саскоў пацягнулася трое кацянят. Пачуўшы пах малака, да кошкі пацягнулася сваёй мордачкаю і вавёрка.

— Глядзі, глядзі, як яна ссе,—цікавіўся Міколка.

— Ціха ты, не палохай,—ласкава гаварыў Толя.

Кошка паглядзела на хлопцаў, а потым павярнула галаву і аблізала вавёрачку.

— Ну, цяпер будзе жыць,—радаваўся Толя.

Праз тыдзень вавёрачка вылучалася сярод кацянят сваёю жвавасцю і непаседлівасцю. Яна выходзіла з лубка, і, калі быў у хаце сабака, дражнілася з ім. Толя часта наведваў сваю вавёрачку і прыносіў ёй малако.

Аднаго разу, калі Толя і Міколка былі на двары, у хаце голасна замяўкала кошка. Хлопцы ўбеглі ў хату. На падлозе сядзела ўстрывожаная кошка і клікала вавёрачку. Трое кацянят тоненька пішчэлі і туліліся адно да аднаго.



— Гэта-ж яна вавёрачку кліча,—усклікнулі ў адзін голас хлопцы.

— А куды-ж яна падзелася?—занепакоіўся Толя.

Кошка мяўкала, скрэбла кіпцюрамі па падлозе, абнюхвала кожную рэч, але не знаходзіла вавёрачкі. Ёй дапамагалі шукаць і хлопцы.

— Ну, куды-ж яна падзелася?—ледзь не плакаў Толя.

Нарэшце Міколка ўбачыў на акне кавалак шэрсці.

— Бач, гэта-ж яна праз шыбу вылезла!—ускрыкнуў Міколка.

Вавёрачка ніколі не была на дварэ, і таму трывога ў хлопцаў узрастала. Але ў гэты час кошка кінулася да акна, радасна замяўкаўшы. Праз шыбу лезла назад вавёрка.

— Ах ты, рыжая, напалохала толькі нас,—падбег да яе Толя.

— Дзе-ж ты была?—запытаў Міколка і хацеў узяць звярка ў рукі. Вавёрка скокнула з падаконніка і пабегла да кацянят.

Потым вавёрка ўсё часцей пачала выбягаць на двор, але гэта хлопцаў ужо не трывожыла. Яны прызвычаіліся, што вавёрка заўсёды варочалася назад.

Раз пад вечар, калі вавёрка варочалася з прагулкі, ля хаты яе акружылі сабакі.

Вавёрка ўскочыла на высокі кол і пачала дражніцца з сабакамі. Сабакі бегалі каля плота, але дастаць вавёрачку не маглі. Асмялелы звярок, бачачы, што сабакі не змогуць дастаць яго, выгнуў цела дугою і скокнуў з плота на страху. Струхлелая салома абламалася, і вавёрачка паляцела на зямлю. Злосныя сабакі ўмомант накінуліся на яе. Вавёрачка прарэзліва закрычала...



На вавёрчын крык маланкай выскачыла кошка. Яна расправіла вострыя кіпцюры і ўскочыла на першага трапіўшага ёй сабаку. Сабака заскуголіў, закруціўся ад

болю, а астатнія што сілы пабеглі прэч. Кошка рвала кіпцюрамі сабаку спіну. На гэты лямант прыбеглі людзі з суседніх двароў і абаранілі сабаку. Вырваўшыся з каціных лап, сабака паімчаўся без агляд кі па вуліцы.

Пра смерць вавёркі Міколка з Толем даведаліся ўвечары. Яны вельмі шкадавалі любімага звярка.



# ХАМЕЛЕОН

Да нашага суседа Мікіты прыехаў у госці сын—матрос. Вышаўшы з Кірылкам на вуліцу, мы адразу пачулі гучны рып колаў і таму ўзрадаваліся.

— Гэта-ж Янка едзе, от дзе шчасце. Пойдзем, ён пачастуе гасцінцамі,—сказаў мой таварыш, і мы хацелі ўжо накіравацца да фурманкі, ды потым пасароміліся.

— Можа, зойдзем заўтра,—сказаў я Кірылку.

Нам вельмі хацелася бачыць матроса, жывога, здаровага, якімі былі людзі на вялікіх караблях. Убачыць зараз-жа, тым больш, што Янка праехаў шмат краін, а галоўнае паслухаць яго расказы.

Мы пайшлі ў сад і пачалі назіраць за работай пчол. Было цікава глядзець на нязграбных трутнёў, як яны капашыліся на вуллі. Паставяць празрыстыя ружовыя крыллі-сетачкі і звоняць на ўвесь сад:

— Зіг, зіг-зіг...

Я ўжо і забыўся на суседава госця, ляжу на зялёнай мураве пад вішняй ды разглядаю вулей. Вось, думаю, каб злавіць трутня, пабачыць, якія ножкі, галава... Раптам чую га-

ворку. Тады я падняўся і адразу ўгледзеў людзей пад яблыняй. Падыходжу і бачу бронзавы твар Янкі з вясёлымі быстрымі вачыма. Я сарамліва крадуся да яблыні і спыняюся воддаль. Толькі дарма, штосьці трэснула пад нагамі і на мяне зірнуў Янка.

— Ну, хадзі бліжэй, будзь смелым,—сказаў ён ва ўвесь голас.

Я адчуў нейкую ласку ў гэтых словах і ўжо смела падышоў і павітаўся. Янка паглядзеў на мяне і ветліва спытаў:

— Вось які ты ўжо вялікі зрабіўся. Пэўна аграномам будзеш, пчол колькі развёў, малайчына...

Я замяўся крыху, а потым адказаў бойка і весела:

— Пчол развёў бацька, а не я. І буду я не аграномам, а матросам.

— Вось яно што... Так, так. А ці ведаеш ты, хто можа быць матросам?—ціха запытаў Янка і пачаў расказваць пра сваю службу. Ён гаварыў прыгожа, гучным, свежым голасам. Усе мы слухалі, баючыся парушыць супакой. Толькі адна нейкая дакучлівая муха лётала ды гудзела прама каля самага носа ў Янкі. Бацька адламаў галінку і хацеў было перадаць сыну, але той адмовіўся ад яе.



— Вось назола нейкая, усё звініць, ды звініць. Калі апошні раз я ад'язджаў з Іспаніі, зайшоў у горад Севілья. (Гэта муха мне напомніла адзін цікавы выпадак у Севільі). Быў цёплы дзень. Сонца так пякло,

што нават лісты павялі на дрэвах. Мяне забірала смага. Я зайшоў у дом, дзе гандлявалі пітвом. Сядзім за сталом, гутарым. На стол прынеслі віна і яшчэ штосьці. Толькі я пачаў наліваць шклянку, як мне на руку села муха. Я, мабыць, і не заўважыў-бы яе, але зусім нечакана нешта цёплае дакранулася да маёй рукі. Тады я павярнуўся і ўбачыў нейкую дзіўную жывёліну. Цела тонкае, крыху сплюснутае ў баках, з вострым зубчатым хрыбтом, вісіць на доўгім хвасце, зачэпленым на перакладзіне з бамбука. А галава ў яе, пірамідальнай формы, сплюснута і мае на патыліцы шлем з грэбнем. Я вачэй не зводжу, думаю, ці не ўкусіць мяне збіраецца; узняўся я з-за стала і прама іду на гэта страшыдла. Ступіў крок, і што-ж



вы думаеце... Надулася жывёліна, зрабілася круглай, ды як засіпіць, нібы змяя падкалодная. Тут да мяне падышоў той чалавек, што падносіў піва, і растлумачыў праз перакладчыка:

— Не чапайце гэтую жывёліну. Яна зусім не робіць шкоды, і вы яе не палохайцеся.

Я зноў сеў за стол і пачаў уважліва аглядаць яе. Калі яна была раздута, зрабілася надзвычай цікавай. Скура расцягнулася і паказаліся рэбры, а цела зрабілася такім празрыстым, што праз яго я ўбачыў грудную клетку. Галава на кароткай шыі, з вачмі, пакрытымі тоўстымі зросшыміся павекамі, падобнымі на шкло гадзінніка. Як я потым даведаўся, вочы маюць тую асаблівасць, што адначасова могуць глядзець узад і наперад, уверх і ўніз, адным словам, не паварочваючы шыі, жывёліна можа аглядаць наўкола. Завуць такое страшыдла—хамелеонам. Калі мы пакідалі Севілью, мне расказалі шмат чаго пра хамелеона. Наш карабельны качагар расказаў мне пра сваё знаёмства з хамелеонам. Ён быў першы раз на востраве Мадагаскары. Тутэйшы праваднік паказаў яму дрэва, на якім сядзела тры хамелеоны. Прычэпліваюцца яны звычайна ўсімі чатырма нагамі і нават хвастом. У такім выглядзе яны падобны на нейкія нарасты на ствале дрэва. Так сядзяць яны цэлы дзень нерухома. Таму іх цяжка адрозніць, ці то жывёла, ці то нараст на дрэве. Раніцой скура хамелеона мае жаўтаватую афарбоўку. А ў абед ад галавы да хваста выступаюць круглыя кропачкі цёмназялёнага колеру, а ўдоўж хрыбта паяўляюцца цёмныя цені. Калі качагар пакратаў палкай аднаго з трох хамелеонаў, скура зрабілася зеленаватай, жывот блакітным, а кропачкі на скуры зрабіліся чорнымі. Гэтая дзіўная жывёліна кусаецца, але ўкусы яе такія слабыя, што не прыносяць ні ран, ні нават болю. Толькі скура жывёліны пры гэтым змяняе афарбоўку.

Той хамелеон, якога я бачыў у Севільі, быў прыручаны і знаходзіўся ў асобай пашане. Ён лавіў языком мух, высоўваючы яго амаль на дзесяць сантыметраў ад сябе. Калі я адчуў раптоўнае дакрананне языка, гэта хамелеон злізваў муху з маёй рукі. Каб наш клімат дазволіў жыць хамелеону, у нашым садзе не вадзілася-б дакучлівых мух.

Матрос скончыў расказваць пра хамелеона. Ён пазяхнуў, адчуваючы стомленасць з дарогі, і шчыра, па-таварыску запытаў:

— Ну, а ты цяпер паехаў-бы на караблі, ці можа перадумаў? Вельмі-ж я напалохаў цябе. Можа будзеш аграномам?

Мне было цікава слухаць расказ Янкі, я павярнуўся да таварыша і горда выпаліў:

— Кірылка, мы з табой будзем адважнымі матросамі. Няхай толькі хутчэй станем вялікімі, як Янка. Тады мы аб'едзем усю зямлю і будзем бачыць усіх жывёл і людзей...

Янка ўстаў, і ўсе паступова разышліся.



# ЦІКАВЫ ЗВЯРОК

Мы знаходзіліся ў бабровым гадавальніку. Тры пушыстыя бабры ціха поўзалі па падлозе. Адзін з іх—вялікі, з шырокім тоўстым хвастом, пакрытым нібы скурай яшчаркі,—павёў доўгай мордачкай у наш бок, быццам выхваляючыся:

— Во, які я прыгожы.—І сапраўды бабёр быў даволі такі прыгожы. Калі я зірнуў на двух меншых, успомніў адну гісторыю.

Аднойчы я прасачыў бабровую хату і па заданню Акадэміі навук намерыўся злавіць яе гаспадара. Месца, дзе знаходзілася хата бабра, наўкол забалочанае і топкае. Бліш-чыць дзе-ні-дзе вада з травой—рагозам, ды па берагах такой забалочанай рэчкі густымі купкамі расце сакавітая зялёная лаза. Я ўзяў невад і пайшоў на балота, але тут-жа падумаў: „Не, аднаму мне бабра не злавіць“. На шчасце сустрэўся з двума паляўнічымі; параіліся і рашылі раніцой на другі дзень выйсці на рэчку, дзе былі бабры.

Усю ноч я амаль не спаў. Час цягнуўся вельмі доўга, і перад вачыма стаяў пушысты плоскахвосты бабёр. Раніцой да мяне прышлі паляўнічыя, і мы ўтраіх пайшлі на рэчку.

Прышлі, абкружылі хату і тут-жа зацягнулі невад, трымаючы за доўгія крылы. Адзін з нас пайшоў на бераг, каб палохаць з хаты бабра. А хата бабра будуецца надзвычай цікава. На сухі бераг прыносяць гэтыя грызуны розныя ламачыны і складваюць адну да адной, вымазваючы ўсё граззю. Потым унутры робяць мяккую пасцель і некалькі выхадаў у ваду.

Дык вось, стаіць наш паляўнічы на хатцы і стукае палкай.

— Ацю, вылазь, чаго там сядзіш?

Я трымаю крыло невада і думаю:

„Можа ён даўно не жыве ў хатцы, можа гэта леташняя. Трэба выходзіць з вады“.

Пэўна тое самае думаў і другі паляўнічы, што трымаў невад. А той, што стаяў на хатцы, усё крычаў:—А ну, вылазь, годзе ўжо.

Раптам мой таварыш нешта крыкнуў, а я пачуў моцны рывок невада і ледзь стрымаўся на нагах. Кінуліся мы на бераг цягнуць невад з вады.

— Дапамажы,—крыкнуў я таварышу і каўзануўся ў ваду. Умомант мне зрабілася сорамна за сябе. Нейкая ламачына падвярнулася пад ногі і я паваліўся.



„Эх, думаю, прапаў мой бабёр“,— і, насарожыўшыся, устаў памаладзецку, зірнуў на чорныя вочкі невада. Зірнуў і кумельгам кінуўся на бераг. Там біўся бабёр, заблытаўшыся ў невадзе. З яго пушыстай шэрсці, чорнай і бліскучай, сцякала вада.

— Трымай,—крыкнулі мне над вухам. Я хапіў рукамі за яго хвост і пацягнуў да сябе. Да мяне падскочылі таварышы, і мы злавілі вадзянога

звярка. Узялі за лапы, пасадзілі ў мяшок і накіраваліся ісці дадому. Напалоханы звярок пачаў жаласліва пішчэць. Яго піск нагадвае радаснае скуголенне сабакі.

— Пусці мяне, пусці,—здаецца гаварыў ён за спіною.

Тым часам паляўнічыя скруцілі мокры невад і дагналі мяне.

— Давайце паглядзім, мабыць гэта самка. Кажуць, што бабры плачуць, можа яна плача па дзецях,—сказаў я.

Мы вынялі бабра з майго мяшка і ўбачылі на грудзях, бліжэй да пярэдніх ног, два белыя саскі. Сумнення не было, што там у хатцы засталіся дзеці.

Ім цяжка будзе без сваёй маці, але што нам рабіць. Разбураць хату бабра нам не дазволена, а пакідаць малых, якія ссуць матчына малако, азначае пагубіць іх. Мы параіліся і рашылі ўзламаць хату.

Прышлі да рэчкі. На беразе шуміць лаза і нізка хіліцца да вады. Адзін з нашых паляўнічых выламаў лазовы сук і пачаў намацваць бабровы выхад. Потым нешта падумаў і кінуўся разграбаць рукамі верхні, правы схіл бугарка, у якім было гняздо.

Мы вельмі ўзрадаваліся, калі ўбачылі ў чорнай разгрэбанай нары маленькіх звяркоў. Старанна і асцярожна выняўшы іх з гнязда, пачалі аглядаць. Малыя былі падобны да шчанят, толькі чорныя, з брышчастай аксамітнай шэрсцю. Мы глядзелі на іх, нібы на якоесьці шчасце. Звяркі былі маленькія і бездапаможныя. Я ўзяў на рукі прыгарнуў да сэрца дзве кволыя істоты, і мы хутка пайшлі дадому. Сустрэчныя людзі дзіўна пазіралі на нас.

— Што гэта за звяркі,—пыталі яны.

— Бабры,—гаварыў я і не спыняючыся ішоў дадому. Дома пасадзілі маці-бабрыху ў пустую бочку і ціха падпусцілі да яе бабранят. Старая паднялася, села на заднія

лапы і выставіла набухшыя малаком саскі. Малыя павярнулі мордачкі і пацягнуліся да саскоў.

— Глядзі, дзеці яе,—сказаў я сваім таварышам.

Так маці сядзела, покуль накарміла малых. Потым мы прынеслі маладых галінак лазы, але старая не прымалася іх грызці.

Так яна прабыла дзень. Мне зрабілася шкода звярка, і я выпусціў яго з бочкі на агарожаны плотам двор. Прышлі суседзі паглядзець бабра, і тут адбылося самае галоўнае. Маці зарухалася і зусім непрыкметна падпаўзла да прызбы хаты. Усе прысутныя, затоіўшы дыханне, глядзелі на яе.

— Няўжо яна кінецца ўцякаць,—падумаў я.—Не, старая нават і не думала кратацца з месца. Яна прыслухалася і энергічна стала падтачваць хату. Я хацеў перашкодзіць ёй разгрызаць бервяно. Падышоў і падцягнуў за хвост. Маці раззлавалася, скасавурыўшыся паглядзела на мяне. У бабра вочы чорныя, нібы невялікія чорнаслівы. Мяне яны нават прыкавалі да сябе. Я бачыў, як у яе шавеліцца вус і пачаў смяяцца з яе бяссілля. А яна раззлавалася, фыркнула і прама скокнула на мяне. Я адскочыў і ўбачыў пару белых доўгіх зубоў у роце.

— Эге, якая ты злосная!..

Я зноў пасадзіў яе ў бочку і адвёз у няволю. Там яна асвоілася і больш не палохалася людзей.

# *КАПКАН НА ДРЭВЕ*

Давялося мне аднойчы вартаваць куранят. Жонка адлучылася з дому, а я сяджу і вартую цэлы дзень. Лес навокал, так і глядзі аднекуль кінецца камнем коршак і схопіць майго куранёнка. Заняўся я сваёй справай і забыўся на куранят. Успомніў тады, калі ўжо куры закудахталі на двары. Выскачыў на двор, узяў стрэльбу і паімчаўся ў лес. Над лесам кружыўся коршак. У мяне з'явілася жаданне зараз-жа прыстрэліць птушку. Асцярожна, напрактыкаваным крокам іду па лесе між кустоў. Лес прыціх ад летняй гарачыні, і толькі лісты асін ціха шалясцяць над галавою. На тоўстай высокай алешыне я ўгледзеў нечае гняздо. Яно здалёку выглядала дзіўнай жывёлінай, у якой тырчэлі голыя косці.



— „Мабыць тут 'жыве коршак",—падумаў я. І каб упэўніцца, што гэта сапраўды так, я падышоў да дрэва і прыслухаўся. Ніякіх гукаў не чуваць з гнязда. У мяне з'явілася падазрэнне, што гняздо даўно пакінуў гаспадар. Усё-ж я пачаў стукаць палкай па дрэве і крычаць:

— Акыш, пракляты!

Доўга так прастаяў ля дрэва, але коршака не было. Разлаваны хутчэй пайшоў дадому, каб хоць упільнаваць астатніх куранят.

Неяк увечары, праз некалькі дзён пасля таго, калі я падыходзіў да гнязда, мне трапілася зноў праходзіць міма алешыны. На гэты раз гняздо мне паказалася вельмі дзіўным. На адным баку з яго звісала крыло і крыху шавялілася. Я свіснуў, і адразу з гнязда падняўся коршак і неахвотна паляцеў на суседняе дрэва. Я не ўправіўся стрэліць і толькі голасна сказаў:

— Э, браток мой, бось які ты хітрэц,—і шпарка пайшоў дадому.

Я мог-бы пільнаваць цэлую ноч, і пэўна коршака застрэліў-бы, толькі лепш прынесці яго жывым і падставіць курам, няхай крыху паклююць злодзея. З такой думкай я ўзлез на дрэва і, калі дабраўся да гнязда, здзівіўся. На пуховай пасцелі ляжалі два малых коршакі і косці з'едзеных птушак. Тут ляжаў і мой куранёнак. Я пазнаў яго па галаве, якую драпежнік не паспеў з'есці. Маладых коршакаў я хацеў паскідаць на зямлю, але потым пашкадаваў.

— Лепш старога злавіць, а малыя не вінаваты.

Паставіў капкан на самае гняздо, абвязаўшы пружыны тонкай парусінай. Узяў маленькіх коршакаў і спусціўся па дрэве ўніз.

Калі раніцой прышоў да алешыны, здалёку ўбачыў вялікую птушку. Яна ляжала на зямлі і злоснымі вачыма глядзела на мяне.

— Ага, папаўся, вось мы і палічымся з табою,—загаварыў я. Коршак здрыгануўся ад майго голасу, лёг на спіну і рашыў абараняцца кіпцюрамі і дзюбай. Як толькі мая рука пацягнецца да яго, коршак энергічна абараняецца і не дае мне падняць капкан. Тады я ўзяў палку і прыціснуў ёю коршаку ног.

Прынёс коршака дахаты і падпусціў малых. Яны падышлі і зараз-жа залезлі пад крыллі і ўзрадаваліся, пачуўшы знаёмы пах.

Тры дні коршак не еў нічога, а на чацверты здох. Я ўзяў выкінуў птушку на дрывотнік, дзе хадзілі куры. Яны ўбачылі свайго ворага, закрычалі і адскочылі ўбок. Маладыя кураняты пахаваліся, а тоўсты высокі певень прыпыніўся, павярнуў галаву і агледзеў нябожчыка. Калі ўпэўніўся, што тут няма небяспекі, загаварыў з старымі курамі:

— Вы яго не палохайцеся,—і першым асцярожна падышоў бліжэй да коршака. За ім нясмела і астатнія. Потым ён ударыў дзюбай у крыло і адскочыў, крыло не шавялілася, тады ўсе куры падышлі і пачалі кляваць коршака. Я абараніў нябожчыка ад курэй і зрабіў з яго чучала. Яно і зараз знаходзіцца ў маёй кватэры. А двое маленькіх коршакаў праз тыдзень здохлі.

З таго часу куры ўжо не палохаюцца коршакаў, яны самі ўступаюць з імі ў смяротную бойку.



# ПАЛАСАТАЯ КОШКА

У пасёлку „Воўчае логава“ ўвечары прыгналі кароў з лесу. Каровы сярдзіта ішлі па вуліцы з надзвычай запалымі бакамі. А пастух прыбег, запыхаўшыся, да мяне і сказаў:

— Больш не паганю, хіба вы не шкадуеце жывёлу?.. Ліха ведае, што ў гэтым лесе робіцца.

Пастуху толькі мінула 11 год, але хлапчына ён кемлівы і дасужы. Мы агледзелі кароў і ўзрадаваліся, што ўсе пакуль што нічым не пашкоджаны. Я мусіць пайшоў-бы дадому, але хлопчык зычна сказаў:

— Вось і глядзелі, а тут што? Вы паглядзіце на пярэстую цялушку, якая яна зрабілася. Я падышоў і адразу ўбачыў здзёртую скуру на шыі. Цялушка глядзела вялікімі вачыма на людзей, быццам прасіла дапамогі.

Я нічога не сказаў пастушку. Пайшоў дадому, узяў стрэльбу і моўчкі накіраваўся ў лес. Вышаў на адну паляну тут-жа каля хаты, неяк усё перадумаў.

— Ноч, стрэльба мая старая, а лес глухі, лепш вярнуцца дадому,—рашыў я і пайшоў дадому.

Я ведаў, што ў лесе жыве дзікая паласатая кошка—рысь. Яна крыважэрная і вельмі страшная. Гэта яна ганяла кароў і разарвала кіпцюрамі карак пярэстай цялушцы.

Назаўтра раніцой удвух з пастушком пагналі кароў. Жывёла не ідзе на тое месца, дзе ўчора ганяла іх рысь, абмінае і сярдзіта пачынае рыкаць. Я нарыхтаваў стрэльбу і чакаю звера. А звер павінен прыскочыць зараз-жа, як пачуе прэсны пах малака і рэў кароў.

— Цімошка,—кажу я пастуху,—ідзі да мяне, ды не высоўвайся вельмі з-за куста.

Сядзім пад кустом арэшыны і ўважліва ловім кожны гук. А ззаду нас стаіць тоўстая высокая яліна. Адзін яе сук нахіліўся да маёй галавы і ледзь калыша галінкамі. Спераду на паляне па сакавітай траве ходзяць каровы: ухадзіліся і забылі пра небяспеку. А небяспека крадзецца на мяккіх лапах патаемным крокам. Я гляджу на кароў, на высокія сосны, і мяне забірае злосць на звера.

— Калі вартуеш, дык і звер не прыходзіць,—падумаў я,— можа ён пайшоў углыб лесу, ліха яго ведае.



Нечакана на маю руку пасыпаліся парыжэлыя іглы. Я падняў галаву і доўга разглядаў, хто-б гэта мог быць там. Дзень такі сонечны, бязветраны і раптам сыпяцца з дрэва іглы. Дзіўна!

— Вавёрачка, глядзі-ка,— сказаў Цімошка.

Вышэй нашага сука сядзела жвавая вавёрка і кудысьці

глядзела на другое дрэва. Я даў знак хлопчыку супакоіцца і бясшумна прыпадняўся. Тое, што я ўбачыў, зразумеў не адразу. На суседнім дрэве, выцягнуўшы доўгае пругкае цела, стаяла рысь. Яна замерла, пэўна пачула мае рухі і, выцягнуўшы галаву, прагна слухала кожны шэлест. Я не ведаў, што рабіць: страляць, наўрад ці патрапіць куля ў далёкую мішэнь. А кратацца з месца—напалохаеш драпежніка.

Вавёрачка, не заўважыўшы чалавека і звера, скокнула з нашага дрэва на суседняе, а я, скарыстаўшы яе шорахі ступіў два крокі ўперад. Паласатаму драпежніку мусіць спадабалася вавёрка, бо ён уважліва сачыў за ёю, а я тым часам не сцярпеў ад жадання пусціць кулю, чакаў яшчэ аднаго руху вавёркі, і ўмомант стрэліў. У мяне забілася сэрца і я ўсхвалявана падумаў.

— Няўжо прамахнуўся?..—Але тут-жа пачуў крык Цімошкі:

— Глядзі, вунь яна валіцца.

Так забілі мы дзікую кошку, якая палохала кароў.

— А вавёрку?—спытаеце вы.

Вавёрку ў той-жа дзень зглавіў Цімошка. Яна была зусім маладая і нявопытная. Мы хутка прыручылі яе. Яна дапамагла нам забіць драпежнага звера.



# КАСА ВЫРАТАВАЛА

У пачатку касавіцы мне трэба было ісці за касой да суседа-лесніка. Выбраўся я з дому досвіткам і пайшоў па дарозе. Мне так добра было ступаць па мяккай лясной мураве, што я не ўгледзеў, як падышоў да лесніка.

— Вось і каса табе, я ўжо загадзя нарыхтаваў яе,—сустрэў мяне сусед.

Сонейка ўжо пачало ўзыходзіць над лесам. Раса навярнулася спелым агрэстам на кустах, і так хочацца мне размахнуцца касой і касіць, касіць. Я ўзяў касу і нацянькі пайшоў дадому.

Ішоў лясной сцяжынкай, у адной руцэ звонкая каса, а ў другой—альховая палка. Навокал мяне кусты і лес— такі вялікі старадаўні. Чаго толькі не знойдзеш у нашым лесе. Летам здаецца ціха, быццам няма нікога. А прыслухаешся, дзесьці далёка спявае салавей ды яшчэ нейкая птушка. Іду сцяжынкай, шырока расстаўляю ногі. Раптам у кусце з правага боку трэснула сухая галінка.

„Хто там“,—падумаў я. Агледзеўся, уважліва прыслухаўся. У траве праскочыла спрытнае мышанё,—яно мусіць парушыла спакой.

Мне стала сорамна сваёй асцярожнасці і я намерыўся ісці далей. Ступіў два крокі па сцяжынцы і ледзь стрымаўся на нагах. З куста прама на мяне выходзіў мядзведзь. Выставіў пярэднія лапы і вось-вось возьме мяне ў абдымкі.

— Ай,—закрычаў я ад страху і выпусціў з рук касу і альховую палку. Палка кранулася касы, каса зазвінела стогалосым рэхам, і гэта выратавала мяне. Мядзведзь спалохаўся металічнага звону, зароў немым голасам і пабег ад мяне.

— Гэк, гэк, гэк,—крычаў звер. У голасе чуўся спалох і дзіўны жах. Я рассмяяўся з яго спалоху і здзіўлены нечаканай перамогай пайшоў дадому.



# РАГАТЫ ПРЫГАЖУН

Гарачая пара касавіцы. Шуміць трава на лузе, цёплы вецер разносіць мядовы пах кветак. А ў гэтым годзе была густая, вялікая трава. Сама просіцца пад касу. Здалёку чалавека ўбачыць—галоўкамі да нізу клоніцца і шуміць, шуміць. Я махаю касою, і толькі вада свішчыць па тонкім палатну сталі.

Раніцой добра касіць, каса так едка рэжа мякаць травы, што і не адчуваеш зморанасці. Кончыў пракос, павастрыў касу і пачаў новы пракос. Аж чую ззаду тупат. Павярнуўся і бачу—да мяне бяжыць прыгожы лось.

Тры разгаліненні рогаў калышуцца над галавою, якую ён нясе амаль паралельна зямлі і сваёй спіне. Галава ў лося пры быстрай хадзе прыгінаецца да спіны, і шырокія рогі не перашкаджаюць прабірацца ў гушчары.

Я стаў і дзіўлюся на тонканогую, прыгожую жывёлу цёмнагнедай масці, ад сонца яна зрабілася яшчэ прыгажэйшай.

Адлегласць паміж намі з кожнай секундай памяншаецца. Лось набліжаецца да мяне, і мне робіцца страшна.

„Ці не ашалеў ён“,—падумаў я. Вакол мяне не было нікога. Дзікі, сярдзіты бег пачаў палохаць мяне.

— Чу-чу-чу. Кусі, кусі,—пачаў я крычаць, каб напалохаць прыгажуна. Але лось не слухаўся. Ён скачкамі ішоў да мяне. У дзесяці кроках ад лося я зазваніў мяташкай па касе. Каса зазвінела так голасна, што яе металічны гук спыніў прыгожую жывёлу.

Лось выцягнуў уперад мордачку, чмыхнуў і зараз-жа паімчаўся ў бок ад мяне. Я здагадаўся, што прыгажун мяне не бачыў. Ён зморaны імчаўся водлаль мяне, адчуваючы небяспеку. Мяне зацікавіла: што-ж гэта здарылася з ім?

З такой думкай я пайшоў далей па сенажаці і адразу даведаўся, у чым справа.

Пераскокваючы траву ў рост чалавека, бег чорны сабака.

— Мірсік, ты куды?—Сабака вінавата глянуў на гаспадара і зморaны, высунуўшы язык, паваліўся пад ногі. Ён глядзеў на мяне ласкавымі вачыма, а я дакараў яго:

— Ты што-ж дом не пільнуеш, а паляваннем заняўся. Ну, ідзём. Ну...—сказаў я. Сабака ўстаў, і мы пайшлі дадому,

Як я потым даведаўся, сабака перагрыз вяроўку і недзе, ідучы маім следам, патрапіў на соннага лася.



# ЗМЕСТ

Рэдактар *Гарбуноў*. Літпраўка *Нейфах*.
Тэхрэдактар *І. Мілешка*. Карэктар *Адамовіч*. Адк. кар. друк. *Л. Кучынская*.
Здана ў друкарню 17|VIII—38 г. Падпісана да друку 4|X—38 г. Аб'ём
4¹|₂ друкаваныя аркушы. Папера
70×92¹|₁₆. Тыр. 7.000 экз. Зак.
ДВБ № 344. Уп. Галоўлітбела
№ 737. Заказ № 4763.
Друкарня „ПАЛЕСДРУК".
Гомель, Савецкая, 1.

*